# ПА ЛІНІІ НАСТАЎНІК — ВЁСКА

Роля настаўніка ў вёсцы значна шырэйшая, чым толькі, як можа здавацца, выхоўванне дзяцей і ўлажэнне адпаведнага запасу ведаў у іх галовы. Настаўнік — гэта таксама член вясковага грамадства, часта ініцыятар добрых спраў, свой чалавек, які ўмее дапамагчы, умее падказаць найлепшы выхад у канкрэтнай сітуацыі.

Але настаўнік зможа выконваць гэту пачэсную ролю толькі тады, калі сам будзе адчуваць сябе членам гэтага грамадства, калі тут жыве і думае працаваць не адзін год. Таму наша дзяржава ў апошні час і прысвячае столькі ўвагі кватэрам для настаўнікаў.

Настаўнікі, якія жывуць справамі вёскі, часта ўваходзяць у розныя вясковыя арганізацыі, становяцца іх кіраўнікамі, што дае несумненную карысць і ім асабіста і асабліва вёсцы.

Вось у Дашах, напрыклад, вельмі папулярны сярод насельніцтва гурток вясковых гаспадынь. Гэтая вельмі канкрэтна дзейнічаючая арганізацыя галоўным сваім заданнем лічыць дапамагаць жанчыне ў яе штодзённых хатніх абавязках — выхоўванні дзяцей, вядзенні дому, прыбіранні, гатаванні і ў многіх іншых непералічаных будзённых справах.

Дык вось настаўніцы, адчуваючы сябе паўнапраўнымі членамі вясковага грамадства, узялі на сябе ініцыятыву працы гуртка. Старшынёй КГВ была выбрана настаўніца Валянціна Рашчэнка, жонка дырэктара школы. Сам дырэктар нямала працы ўклаў у справы гуртка і лічыцца ў жанчын неафіцыяльным (бо мужчына) членам.

Ужо некалькі год у школе па ініцыятыве настаўнікаў арганізуецца дзяцінец. Дзеці ў час найгоршых палявых работ знаходзяцца ў дзяцінцы пад апекай настаўніц, атрымоўваюць абед і прывучаюцца да калектыўнага жыцця. Жанчыны вёскі вельмі задаволены апекай. Аддавалі ў дзяцінец нават двухгадовых малятак, верачы, што дзіця будзе добра дагледжана. Усе жыхары вёскі вельмі хацелі, каб дзяцінец у Дашах быў ператвораны ў прадшколле і працаваў круглы год. Думаю, што гэта справа вельмі важная як для дарослых жыхароў вёскі, так і для саміх дзяцей, і павінна быць вырашана з карысцю для вёскі. Дзяцей сабралася б шмат (летам збіралася каля сарака), ёсць каму весці дзяцінец, а асаблівую ролю прадшколле адыграла б у падрыхтоўцы шасцігодкаў да школы, да калектыўнай працы, выпрацоўвала б у іх адвагу, бо і гэта вельмі важная справа для вясковага дзіцяці.

Гуртку вясковых гаспадынь добра дапамагае сельскагаспадарчы гурток. Вось тут і паяўляецца супрацоўніцтва жонак і мужоў на грамадскай ніве. Патрэбны быў жанчынам трактар, каб прывезці зямлі і загаспадарыць інспекты — гурткоўцы прыслалі трактар. А калі ў супольным агародзе вырасла найлепшая ў вёсцы расада, жанчыны прадалі яе, а за заробленыя грошы, абмеркаваўшы гэта дакладна, купілі сокавіроўку для агульнага карыстання. Агародніна з супольнага агарода ішла летам на харчаванне дзяцей у дзяцінцы. Сельгасгурток таксама не хацеў быць горшым і купіў для дзяцінца кухонныя шафы. Вясной дзяцінец атрымае абсталяванне для пляцоўкі гульняў.

Жанчыны ў сваім гуртку вучацца, як лепш весці хатнюю гаспадарку, гадуюць куранят, арганізуюць розныя курсы, рэгулярна чытаюць журнал «Гаспадыня» і іншыя часопісы.

Настаўнікі ўключаюцца і ў іншыя справы вёскі. Вось ужо трэці год арганізуюцца курсы асветы для дарослых. І былыя дзеці і дарослыя вучні вынеслі са школы вялікую ўдзячнасць да школы і настаўнікаў. Яны не забываюць пра школу, нават калі пайшлі далей у свет. Дырэктар школы з гонарам паказвае тоўсты альбом віншавальных паштовак ад былых сваіх вучняў. Альбом гэты — адна з тых дробных крупінак радасці, якія дае настаўнікам іх цяжкая штодзённая праца.

А цяжкасці і клопаты ў настаўніцкім жыцці здараюцца, на жаль, значна часцей, чым радасці. Не будзем сёння ўнікаць у педагагічныя справы. З імі дашаўскія настаўнікі і самі нядрэнна спраўляюцца. Нязноснымі ім здаюцца клопаты адміністрацыйнага характару.

Тры гады назад школа атрымала новы дадатковы будынак. Цешыліся нас-

Працяг на стар. 4



Ніва
ТЫДНЁВІК ГП БГКТ
№ 50 (876) ГОД XVII БЕЛАСТОК 10 СНЕЖНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.

# ПОМ на вёсцы



*«Старыя»-халадзільнікі, гатовыя для далейшай эксплуатацыі.*



*Тут капітальны рамонт праходзяць восі і калёсы.*



*«Урсус» С-4011» з МБМ у Кленіках на «лячэнні».*

Было гэта яшчэ ў пачатку верасня. Гутарыў я з гаспадарамі аб працы нараўскага ПОМ-у. Адразу сабе падумаў, што ў адрас нараўскага ПОМ-у пачую шмат крытычных заўваг. І не таму, што быццам бы тут працуюць горшыя людзі. Мне здавалася, што нараўскі ПОМ для гэтага мае аб'ектыўныя прычыны: тут асяроддзе тыпова вясковае, ды і ад грамадскіх цэнтраў з чыгункамі вельмі далёка. Аднак крытычных заўваг не было... Наадварот, гаспадары з Вялікіх Тынявіч гаварылі, што «хлопцы з ПОМ-у гэта свае людзі, і ў часе жніў рамонту не трэба было доўга чакаць».

У пачатку лістапада г.г. я наведаў нараўскі ПОМ. Тое, што я тут пачуў і ўбачыў, прыемна расчаравала мяне.

Нараўскі ПОМ гэта найвялікшае прадпрыемства калісь горада, а зараз вёскі Нарва. Мае ён свой філіял у горадзе Гайнаўка. Зараз працуе тут 220 чалавек. Для жыхароў Нарвы, якія не маюць зямлі, гэта дабрадзейства, даючае працу на месцы жыхарства. Дабрадзействам з'яўляецца ПОМ і для гаспадароў.

Асноўнае заданне ПОМ-у — рамонт сельскагаспадарчых машын і падрыхтоўка механізатараў для сельгасгурткоў. Пад сваёю апекаю мае таксама 6 сельскагаспадарчых кааператываў. Гэта многа, але такая шырокая дзейнасць мае добрыя вынікі. Паводле слоў дырэктара, у мінулым сезоне сітуацыя была намнога лепшая, таму што кадры ў сельгасгуртках і кааператывах лепшыя. Дбаюць тут і пра кваліфікацыі сваіх працаўнікоў. Кожны год на спецыяльных курсах павышаюць свае кваліфі-

Працяг на стар. 4

МАЛАНКАВЫ КОНКУРС

## Выбіраем імя бельскаму хору

По просьбе бельскага хору БГКТ аб'яўляем маланкавы конкурс на названне для гэтага заслужанага калектыву. Прапановы шліце ў нашу рэдакцыю. Колькасць прапаноў неабмежавана. Тэрмін дасылання прапаноў — да 15.XII.72 г. Для ўдзельнікаў конкурсу ГП БГКТ падрыхтавала кніжныя ўзнагароды.

У Рыбалах узбунтаваліся.

— У нас вёска амаль, як горад, — даказвалі прадстаўнікам павятовай улады. — Мы ад сябе гміны не выпусцім. Да Храбалоў не пойдзем!

— Зразумейце, — тлумачылі ім, — што мы не можам утварыць гміны і ў вас і ў Храбалах! Храбалам і тамашнім вёскам значна цяжэй было б да вас даязджаць. Ды ў Храбалах існуе ўжо мураваны будынак як найбольш адпаведны на сядзібу гміннага ўпраўлення.

— Тады хай нас ужо лепш далучаць да Заблудаўскай гміны ў Беластоцкім павеце!

— Што вы на тое, таварыш сакратар? — пытаю ў магістра Сцяпана Нікіцюка, сакратара прэзідыума ПРН у Бельску.

— Мы пратэставаць не будзем, — заяўляе ён і раскладае на стале карту Бельскага павету. — Вось рыбалаўская грамада, — паказвае. — Яна быццам даклеена да нашага павету.

## На шляху ў гміну

Сапраўды, вёскі Рэпнікі, Паўлы, Войшкі, Канюкі, Рыбалы, якія прыналежаць да Рыбалаўскай грамады, аддзяляе ад Бельскага павету многаводная Нараў, а шырокая шаша, па якой што некалькі мінут імчацца блакітныя аўтобусы, як страла, накіроўваецца ў Заблудаў і далей — у ваяводскі Беласток.

— Хай сабе адыходзяць, — паўтарае сакратар. — У эканамічным сэнсе гэтая грамада таксама нам надта ж вялікага гонару не прыносіла. Землі там слабыя, ураджай невысокі.

— Ці многа маеце падобных праблем у сувязі з укараненнем прапановы партыі аб новым адміністрацыйным падзеле і ўстанаўленні гмінных упраўленняў?

— Цяжка сабе ўявіць, каб гэтых клопатаў не было, — сцвярджае кіраўнік арганізацыйна-праўнага аддзела павятовай рады Мікалай Сідарук, які дагэтуль прыслухоўваўся да нашай гутаркі. — Мы ж па сутнасці грунтоўна перабудоўваем цэлую арганізацыйную структуру мясцовай улады. Дагэтуль у Бельскім павеце дзейнічала 18 прэзідыумаў ГРН і дзве гарадскія рады. Цяпер будзе толькі 7 гмін: у Бельску, Боцьках, Бранску, Храбалах, Орлі, Рудцы і Вышках.

— У сваіх намаганнях, — дадае сакратар, — мы перш за ўсё кіраваліся тым, каб узмоцніць аўтарытэт гміннай улады, каб з гміны зрабіць самастойную гаспадарча-грамадскую адзінку. А клопаты? Без турбот у працы не бывае. Вось вёска Сабятына, якая дагэтуль знаходзілася ў межах Бельскага павету, мае адыйсці да Мілейчыцкай гміны Сямяціцкага павету. Не ўсім, вядома, гэта спадабалася. Знайшліся аж 24 гаспадары, якія напісалі скаргу ў павятовы камітэт партыі. Прыйшлося яшчэ раз тлумачыць ім, што для жыхароў іх вёскі зручней будзе даязджаць у Мілейчыцы, чымсьці ў Боцькі.

— А ў іншых вёсках?

— Трэба вам ведаць, што мы яшчэ ў кастрычніку г.г. правялі ў кожнай вёсцы раз'яснялыныя сустрэчы, у час якіх збіралі ўсялякія заўвагі: Для прыкладу: — вёску Малінава мы прапанавалі далучыць да гміны Вышкі, а малінаўцы хацелі быць у Бельскай гміне. «У нас у Аўгустове — МБМ, у Бельск мы ездзім за вугалем і на кірмашы», — тлумачылі нам і мы іх паслухалі. Вёску Буйнова мы хацелі далучыць да Бран-

(Працяг на стар. 5)

## НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

# З жыцця ЛЗС

Адной з найбольш папулярных дысцыплін спорту ў Беластоцкім павеце з'яўляецца футбол.

Футбольныя розыгрышы сёлета адбываліся ў гэтым павеце ў двух групах: трампкажаў ва ўзросце да 16 гадоў і ў Ц класе.

У розыгрышах трампкажаў удзельнічала 30 камандаў. Чэмпіёнам павету стаў ЛЗС Заблудаў перад ЛЗС Багдан, ЛЗС Лявіцкія і ЛЗС Валілы.

У розыгрышах Ц класа прымалі ўдзел 62 футбольныя каманды. Першае месца здабылі ЛЗС-аўцы з Тыкоціна.

Апрача таго, пяць футбольных камандаў ЛЗС з Беластоцкага павету ўдзельнічае ў спаборніцтвах Б класа. Да тых камандаў належыць: ЛЗС «Грыф» з Харошчы, ЛЗС «Матор» з Дайлідаў Гурных, ЛЗС «Лампарт» з Багдан, ЛЗС «Нараў» з Жулткаў і ЛКС «Лось» з Васількова. (ця)

# Гайнаўка прыгажэе



У апошнія гады папрыгажэла паветовая Гайнаўка. Шпаркім тэмпам растуць жыллёвыя кварталы, адкрываюцца новыя гандлёвыя павільёны, прыбывае скверыкаў, асфальтных вуліц, ходнікаў. Асаблівую ўвагу гарадскія ўлады Гайнаўкі адводзяць паляпшэнню стану вуліц і ходнікаў. І так, пабудавалі вуліцу Вжасовую, асфальтны ходнік з боку вуліцы Дварцовай, пракладзен асфальт на вуліцах Вызвалення, Бучка, Варынскага, Дзяржынскага і іншых. Вулічнае асвятленне атрымаў пасёлак Дольнае. Зараз пракладваюцца ходнікі на вуліцы 1 мая. Старыя драўляныя стаўбы электралініі неўзабаве заступяць жалезабетонныя. Паабапал вуліцы пасаджаны кусцікі жываплоту і ружаў. (ця)

Пачатак на стар 1

# На шляху ў гміну

скай гміны, а яны — да Вышкоўскай. Мы ўступілі. Чэхі Забалотныя захацелі перайсці з Арлянскай у Боцькаўскую гміну. Мы згадзіліся. Ступнікі, Кожына і Зубава мы хацелі далучыць да Храбалоўскай гміны, а яны — не, давайце, кажуць, нас у Бельск! Што ж, пайшлі мы ім на руку. Падобных спраў мелі мы яшчэ многа. Усе прапановы і скаргі грамадзян былі ў нас вельмі ўважліва разгледжаны.

— Аўтарытэт гміннай улады, пра які вы гаварылі, перш за ўсё залежыць ад людзей, якія будуць працаваць у гмінных упраўленнях.

— Я згодны з вамі, — гаворыць сакратар. — Таму мы вельмі ўважліва падбіралі людзей да гэтай працы, асабліва на пасаду начальніка гміннага ўпраўлення. Правялі размовы аж з 70 кандыдатамі. Усе будучыя начальнікі гмінных упраўленняў у Бельскім павеце — людзі з вышэйшай адукацыяй, пераважна пасля сельскагаспадарчых або адміністрацыйна-праўных вышэйшых школ. Для недавучаных у будучых гмінах проста няма месца.

І так яно быць павінна. Адміністрацыйная рэформа ідзе ў тым напрамку, каб жыхар вёскі ў сваёй гміне мог аформіць усе свае жыццёвыя патрэбы, а людзі, якія яго будуць абслугоўваць, каб рабілі гэта з веданнем справы, грунтоўна і ветліва.

*Віктар Рудчык*

# НЕ ХАПАЕ ВАДЫ

Спяваюць, што «без вады і не туды і не сюды». І гэта праўда. Без вады нічога не зробіш ні ў горадзе, ні на вёсцы. Вада да ўсяго патрэбна. Перш за ўсё яна патрэбна да падрыхтоўкі ежы як чалавеку, так і жывёле. І чалавек і жывёла можа не еўшы жыць доўга, але не п'ючы вады доўга не вытрымае.

Вада — непаўторнае прыроднае багацце, без яго немагчыма жыццё жывёльнага і раслііннага свету. Вада мае шмат мінеральных солей, мае жыццедайную сілу. Наогул вады ў нас многа ў рэках і азёрах, многа і пад зямлёй. Але адчуваецца недахоп добрай пітнай вады ў шматлікіх мясцовасцях. Адчувае недахоп вады і горад Беласток, і больш як 450 вёсак на Беласточчыне. Шмат калодзежаў на вёсках патрабуе рамонтаў, а многія з іх наогул трэба было б ужо заваліць. Часта калодзежы знаходзяцца занадта блізка ад хлявоў, і можа прасачвацца розная нячыстасць. Ёсць таксама калодзежы, напоўненыя паверхневай, грунтовай вадой, часта забруджанай, нездаровай, яна аслабляе арганізм чалавека і жывёлы і можа выклікаць розныя хваробы. На вёсках пераважна ніхто не правярае, не кантралюе і ніхто не ведае, ці вада здаровая, ці не, ці п'ючы яе штодзень людзі не наражаюць сябе на хваробу.

А летам гэтага года ў вёсцы Бароўскія ў Лапскім павеце ў новым калодзежы здарылася страшная трагедыя. Выдзяляўся з вады смерцяносны газ, ад якога загінула чацвёра здаровых людзей. Было гэта так. Калі дайшлі да вады, трэба было яшчэ там нешта зрабіць, дык апусціўся ў калодзеж гаспадар і адразу атруціўся. Не ведаючы, што здарылася, аднавяскоўцы ўпусцілі ў калодзеж другога селяніна. І гэты адразу не даў знаку жыцця. Пасля апусціўся трэці, а затым чацвёрты. Усе яны атруціліся. Успыхнула трывога. Пайшлі ў рух тэлефоны, прыехалі спецыялісты і сцвердзілі, што з вады выдзяляецца смерцяносны газ.

Неправераная вада можа быць небяспечнай. Можа быць нізкай якасці. І таму неабходна, каб санітарная камісія кантралявала ваду ў калодзежах. Асабліва ў тых, з невядомай якасцю вады, новых, нядаўна выкапаных.

Нашыя ўлады шмат увагі ўдзяляюць забеспячэнню насельніцтва чыстай здаровай вадой. Згодна з планам Прэзідыума ВРН, да канца 1975 года атрымаюць ваду з водаправодаў жыхары 124 вёсак Беласточчыны, гэта значыць, 25 працэнтаў тых вёсак, якія адчуваюць недахоп вады. Апрача таго, будзе пабудавана шмат новых калодзежаў.

У Гайнаўскім павеце ў гэтым годзе пабудаваны водаправод у Кляшчэлях, закончаны першы этап будовы водаправода ў Белавежы. У наступным годзе распачнецца будова водаправодаў у Нараўцы і Сухавольцах. У Кленіках існуе механічнае ўняццё вады і будзе яно абсталявана ў іншых вёсках. Падрыхтоўваецца да эксплуатацыі водаправод у Шастакове. Запланавана будова таксама глыбінных калодзежаў з механічнай падачай вады. У першую чаргу атрымаюць ваду з водаправодаў вёскі, у якіх існуюць міжгуртковыя машынна-трактарныя базы. Некаторыя МБМ-ы ўжо маюць водаправодныя сеткі. Маюць іх таксама і гайнаўскія прадукцыйныя спулдзельні.

Як бачым, у гэтым напрамку шмат робіцца на Гайнаўшчыне, але яшчэ больш трэба зрабіць.

*М. Хмялеўскі*

# Добра працуе злеўня малака ў Плянце

У злеўні малака ў вёсцы Плянта Гайнаўскага павету заўсёды належны лад і парадак. Люба Новік працуе тут ужо пяць гадоў. Малако возяць сюды сяляне з Плянты, Сушчага Барка, Беглюкоў. Летам збіраецца 600 і больш літраў сырадою. Найбольш малака прывозяць дастаўцы з Плянты, Сушчага Барка і Ляўкова. Па 20 і больш літраў малака прывозяць: Марыя Кунцэвіч, Вера Шкопэк і Уладзімір Вайцешук з Плянты, Антаніна Сухадола з Сушчага Барка, Мікалай Леўчук з Новага Ляўкова. Люба Новік сумленна выконвае абавязкі на пункце скупкі малака. Яшчэ толькі хацелася б ёй, каб за вадою не хадзіць да студні, а мець яе ў будынку. (ця)

# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

## СЯМЕЙНАЯ

Lento

Цяж-ко-цяж-ко на сэр-дэнь-ку, як вэ-чэр нахо — дзіт;
Што жэ-на-ты да дзеў-чы-ны што й вэ-чэ-ра хо-дзіт.

*Цяжко-цяжко на сэрдэньку, як вэчэр находзіт;*
*Што жэнаты да дзеўчыны што й вэчэра ходзіт,*
*Што жэнаты да дзеўчыны штовэчэра ходзіт.*
*Ужэ прышоў мілы дахаты, стаў нажа тачыці.*
*Его жонка, як галубка, пачала прасіці;*
*Его жонка, як галубка, пачала прасіці:*
*— Ні рэж, ні рэж, мой міленькі, хоць адну гадзіну —*
*То я табе падгадую малую дзіціну,*
*То я табе падгадую малую дзіціну.*
*— Будзеш тады, мая ты міла, дзеці гадаваці,*
*Як я пайду да дунаю нажа паласкаці,*
*Як я пайду да дунаю нажа паласкаці.*
*Вы, суседзе — добрые людзі, накажыце цёшчы:*
*Ніхай едзе, забірае дачыные вешчы,*
*Ніхай едзе, забірае дачыные вешчы.*
*Як вайшла маці дахаты, упала дочцы ў ногі:*
*— Ох ты, дочка, мая дочка, што ж ты нарабіла —*
*Свае дзеткі, як галубкі, ты й асіраціла.*
*— Ой, ні я іх сіраціла, асірацілі людзі,*
*Сіраціла тая шэльма, што жэнатых любіт,*
*Асіраціла тая шэльма, што жэнатых любіт.*

Ад Юліі Харкевіч, 1919 г. нараджэння, вёска Міхнаўка, Гайнаўскага павету, запісаў 30 жніўня 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

# ДАСЯГНЕННІ



*Школа ў Нарве.* *Фота Я. Цялушэцкага*

Пачатковая школа ў Нарве Гайнаўскага павету мае ў сваёй дыдактычна-выхаваўчай працы значныя дасягненні.

Настаўніцкі калектыў школы прывіў дзецям зацікаўленне і ахвоту да грамадскай дзейнасці. У школе належна працуе ЗГП, а вучнёўскі кааператыў у бягучым годзе заняў другое месца ў павеце і атрымаў 700 зл. узнагароды. У будучым годзе юныя кааператары намервауюцца заняцца вырошчваннем ранніх памідораў у парніках.

Вельмі радуюць і настаўнікаў і бацькоў поспехі выхаванкаў школы ў іх далейшай вучобе. Дзесяткі выпускнікоў школы ў Нарве ўжо закончыла сярэднія школы або вучыцца ў іх. Многія вучацца ў вышэйшых навучальных установах, напрыклад: Лігія Якубоўская ў Медыцынскай акадэміі ў Беластоку, Кшыштоф Борсук і Андрэй Асташэўскі ў Варшаўскім палітэхнічным інстытуце, дзве аднаіменніцы Марыі Кур'яновіч, Зоф'я Кірыловіч і Уладзімір Гнатоўскі з'яўляюцца студэнтамі Вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку.

Школа ў Нарве сярод сваіх выхаванкаў мае ўжо магістраў і інжынераў. Нядаўна аддзяленне польскай філалогіі Варшаўскага універсітэта закончыла Мар'я Чарнякевіч, а Вышэйшую інжынерскую школу ў Беластоку — Анна Свентахоўская.

Салідная праца школы дазваляе спадзявацца, што такіх прыкладаў з кожным годам будзе прыбываць. (мг)

# Весткі з Шэрняў

Вёска Шэрні, што ў Бельскім павеце, налічвае каля 70 гаспадароў. Вёска наогул невялікая, але людзей затое мае зарадных і гаспадарных.

Як толькі мацней прыгрэе сонца і расплывецца снег, з самай ранняй вясны людзі прыступаюць да працы. Займаюцца яны пераважна агароднінай. У «інспектах» яны сеюць расаду капусты, памідораў, цыбулі і многай іншай агародніны. Можна сказаць, што людзі з'яўляюцца сапраўднымі агароднікамі. Доўгая праца прыносіць ім не толькі задавальненне, але і вялікія карысці пад канец лета і ў пачатку восені. На палях у іх пасаджана нават па некалькі араў трускалак — і з гэтага таксама карысці.

Сялянам дапамагае міжгуртковая машынная база, якая існуе ў вёсцы ўжо шэсць год. У склад машыннай базы ўваходзіць 15 трактараў, 2 камбайны, 4 снопавязалкі, трактар і многа іншых машын, патрэбных гаспадарам. МБМ мае сваю частку зямлі, якую сама засейвае і атрымлівае даход.

Задаволены тутэйшым сельгасгуртком не толькі жыхары Шэрняў, а таксама і жыхары навакольных вёсак.

Адміністрацыя МБМ месціцца ў прыватным будынку, але гэта да часу, пакуль не пабудуюць новага будынка, на які ўжо прызначана месца. Старшынёй МБМ з'яўляецца Е. Стэц — добры працаўнік.

Моладзі ў вёсцы мала. Асабліва мала дзяўчат, але гэта не значыць, што іх і заўсёды так мала было. За вясну і лета толькі гэтага года выйшла замуж шэсць дзяўчат, ды і многа хлопцаў ажанілася. І так у адну нядзелю ў маі месяцы выйшлі замуж тры дзяўчыны і ажаніўся адзін хлапец — у адзін дзень чатыры вяселлі.

І яшчэ раз вернемся да заняткаў жыхароў. Позняй восенню і зімой, калі вечары доўгія, людзі займаюцца саламянымі вырабамі. Большасць жыхароў робіць саламяныя каробкі, а таксама ткуць тут саламяныя маты.

Праца круглы год паганяе адна другую. Але за гэта маюць людзі вялікія карысці. (іт)

